# АМЕРЫКА, ЯКАЯ ТЫ?

### БІБЛІЯТЭКА

Я некалькі разоў быў ў Нью-йоркскай публічнай бібліятэцы пры 42 вуліцы. Чым яна мяне прыцягнула? Справа ў тым, што ў гэтай бібліятэцы працуе беларуска пані Вера К. і што гэта бібліятэка з'яўляецца месцам найбольшага сховішча беларускіх кніг у ЗША. Агулам беларускіх кніжак ў ёй болей чым 4000 экземпляраў. Сярод іх ёсць і кнігі вельмі рэдкія. Для прыкладу, усе тамы „Беларусаў" Я. Карскага, усе тамы „Люду беларускага" М. Федароўскага. Не без значэння і тое, што бібліятэка збірае ўважліва ўсе публікацыі Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы і „Ніву". Апрача Нью-йоркскай, наведаў я бібліятэку універсітэта, які мяне запрасіў, і гарадскую бібліятэку ў Кліўлендзе, якая таксама мае беларускі аддзел. Зразумела, што вельмі прыемна, калі ў краіне, аддаленай ад твайго краю на дзевяць тысяч кіламетраў, знаходзіш кнігі, выдадзеныя арганізацыяй, якой сам кіруеш. Вядома, што маю на думцы Беларускае таварыства ў Польшчы. А яшчэ прыемней — сустрэць сваю ўласную кніжку.

Але сёння хачу гаварыць аб тэхнічным абсталяванні амерыканскіх бібліятэк. Інфармацыю гэту хачу, аднак, папярэдзіць весткай непрыемнага характару. Ва ўсіх наведаных мною бібліятэках пытаў я, ці наведвальнікі крадуць кнігі, і ўсюды атрымліваў адказ, што крадуць ды многа. Можа, аднак, лепш было б сказаць: кралі многа, а цяпер крадуць мала. Можа хтосьці падумаць, што ў апошнім часе амерыканскае грамадства настолькі перавыхавалася, што крадзежам кніжак не займаецца. Аднак не ў гэтым сабака закапаны! Радыкальнае змяншэнне пакражаў кніжак у амерыканскіх бібліятэках звязана з тэхнікай, якая ўвайшла ў гэтыя бібліятэкі. Яшчэ скажу, што паводле інфармацый персанала бібліятэк, найбольш кніг кралі студэнты, а цяпер тыя ж студэнты крадуць мала. Чаму?

Таму што ў кожнай чытальні стаяць капіравальныя машыны — ксеракс і кожны наведвальнік, калі толькі хоча, можа сабе на працягу адной гадзіны перафатаграфаваць любую тоўстую кнігу, а тонкую — на працягу дзесяці-пятнаццаці мінут. Аплата за такую паслугу мінімальная. Зразумела, што ў такой сітуацыі студэнту „не аплочваецца" красці кнігу, бо ўсё-такі ўсюды ёсць кантроль; выносячы крадзеную кнігу, можна папасціся і страціць доступ да бібліятэкі. Вядома, што ўвогуле ліквідаваць пакражу кніжак не ўдаецца нідзе і нікому, аднак апісаны мною просты спосаб абмежаваў пакражу кніжак радыкальна.

Яшчэ адна з'ява — поўная камп'ютэрызацыя бібліятэчнай інфармацыі. Быць можа, не ўсе ведаюць аб тым, што калі я хачу даведацца, якія кнігі такога ці іншага аўтара знаходзяцца ў бібліятэцы Варшаўскага універсітэта, дык мушу пайсці ў аддзел каталогаў і там у скрыначках шукаць паасобныя лісточкі. А якія кнігі гэтага ж аўтара знаходзяцца ў іншых польскіх бібліятэках? Магу даведацца, але мушу паехаць у тыя мясцовасці, у якіх гэтыя бібліятэкі знаходзяцца. А як гэта справа выглядае ў Нью-йоркскай публічнай бібліятэцы? Праверылі мы з Барташэвічам гэту справу вельмі проста. Спыталі паню Веру К., а яна падыйшла да камп'ютэра і выклікала на яго экран прозвішча Альберт Барташэвіч і зараз жа на гэты экран пачалі выплываць усе загалоўкі тых яго кніжак, якія знаходзяцца не толькі ў Нью-йоркскай публічнай бібліятэцы, але і ў цэлай Амерыцы.

Пасля пані Вера К. выклікала маё прозвішча і зноў вялікі і ўслужлівы камп'ютэр пачаў закідваць загалоўкі маіх кніжак. І вось тут даведаўся я, што Нью-йоркская бібліятэка мае другі том маёй „Гісторыі беларускай літаратуры", але не мае першага тома. Не мае таксама першага майго зборніка „Белавежскія матывы" і перакладу на польскую мову паэмы Янкі Купалы „Яна і я". Я паабяцаў прыслаць гэтыя кнігі, але як дагэтуль не выслаў.

Вось так выглядае тэхнічная база амерыканскіх бібліятэк. Тэхнічныя інавацыі ўварваліся і ў забеспячэнне кніг, у іх рэнавацыю, у іх дэзінфекцыю і г.д.

Прызнаюся, што я глядзеў з зайздрасцю на гэтыя тэхнічныя навінкі і паціху марыў аб тым часе, калі і ў нас яны паявяцца і так геніяльна пачнуць дапамагаць чытачу.

А хтосьці з чытачоў „Нівы" можа спытаць: „Ну, а як дарагія кнігі ў ЗША?" Мушу сказаць, што дарагія або нават вельмі дарагія. Быў я ў амерыканскай кнігарні і аглядаў альбомы з жывапісам. Кнігі гэтыя каштавалі пяцьдзесят, семдзесят, сто і сто дваццаць долараў. Зразумела, што не кожны чалавек можа дазволіць сабе на куплю такой кнігі. Але нямала ёсць і такіх, якія каштуюць пяць, дзесяць ці дваццаць долараў, і гэта на амерыканскія адносіны нямнога.

**Алесь Барскі**

## ПЕРАД XI З'ЕЗДАМ БГКТ

### ЯНКА ЗЕНЮК



Хто як хто, але Янка Зенюк добра ведае праблематыку дзейнасці БГКТ, таму што на працягу многіх гадоў быў ён штатным сакратаром ГП. Ён і далей у курсе ўсіх спраў, як і палажана намесніку старшыні ГП. На XI З'ездзе БГКТ закране ён пытанне ўзняцця на вышэйшы арганізацыйны ўзровень БГКТ-оўскіх мерапрыемстваў і дзейнасці.

Янка Зенюк вядомы на Беласточчыне як намеснік старшыні ваяводскай рады ПРОН. Па прафесіі ён настаўнік. Педагагічны шлях распачаў у 50-тых гадах у пачатковай школе на Гайнаўшчыне, а цяпер ён выкладчык філіяла ВУ у Беластоку. Настойлівы і працавіты гэта чалавек. Не адрываючыся ад прафесіянальнай працы, дабіўся ён навуковага звання доктара педагагічных навук. Працуе на пасадзе дырэктара Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі. У мінулым годзе ўдастоены быў звання „Заслужаны настаўнік ПНР". (мх)

### МІКАЛАЙ БУШКО



Што Мікалай Бушко дасканалы арганізатар, ведае кожны, хто знаёмы з яго дзейнасцю на ніве культуры. Найбольш выяўляецца гэтая важная рыса падчас арганізоўвання ў Гайнаўцы Дзён царкоўнай музыкі. Дзякуючы яго нястомным намаганням, гэтае нязвыклае мерапрыемства, якое так моцна звязана з пачуццямі беларусаў, заслужана сталася міжнародным. І ў гэтым, між іншым, праяўляецца яго, Бушко Мікалая, служэнне народу. І чым больш ён аддае душэўных сіл гэтай службе, тым больш іх вяртаецца да нашага таленавітага дзеяча культуры. Мікалай Бушко закаханы ў песню, спявае разам са сваім харавым калектывам, памагае іншым. І добра, што ёсць у Прэзідыуме ГП дырэктар Гайнаўскага дома культуры, чалавек вялікага аўтарытэту сярод дзеячоў культуры. (мх)

## „МУЗЫКІ" НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Захапляліся „Музыкамі" удзельнікі Купалля ў Белавежы і Дня беларускай культуры ў Беластоку. З „Музыкамі" хацелася быць і іх слухаць. І быў я на іх канцэртах — у Чорнай-Беластоцкай і ў Гарадку.

**У Чорнай-Беластоцкай**

З „Музыкамі" прыехаў у Чорную-Беластоцкую харавы калектыў з Беластока і ён першы выступаў.

Затым беластаччан змянілі гродзенцы. Найперш выступалі музыканты, а сярод іх Валянціна Блінава, якая па-мастацку, з вялікім прафесіяналізмам іграла на скрыпцы. Вялікае зацікаўленне выклікала таксама ігра на валкаўніцы.

Пад музыку сваіх музыкантаў Зоя Дзмітрук з Гродна і Люба Гаўрылюк з Беластока праспявалі частушкі. Гродзенская салістка, а таксама танцоры атрымоўвалі бурныя апладысменты. Адным словам, выступленне ансамбля „Музыкі" было тут вялікай культурнай падзеяй.

Дырэктар мясцовага Дома культуры Ірэна Станішчак сардэчна дзякавала беластаччанам і гродзенцам за дасканалы канцэрт і запрашала прыязджаць часцей.

Пасля абеда, пры вогнішчы, гаспадары наладзілі вечарыну з беларускімі спевакамі і музыкантамі. Панаваў вельмі прыемны і сардэчны настрой. Было гэта адначасова канцавое мерапрыемства з нагоды Дзён Чорнай-Беластоцкай.

**У Гарадку**

27 чэрвеня ў 18 гадзін запланаваны быў канцэрт „Музыкаў" у Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку. Білетаў не хапіла ўсім ахвотным.

Першым нумарам праграмы была музычная замалёўка „Упартыя музыкі". Адразу выканаўцы прыпалі да спадобы гарадчанам. Давялося ім паўтараць на біс некаторыя песні.

Такой жа цёплай, як прывітанне, была падзяка за канцэрт працаўніцы Дома культуры Ніны Купрашэвіч і заснавальніцы гарадоцкага беларускага хору — Ніны Мушынскай.

Пасля адбылася супольная вячэра ў сталовай трыкатажнай фабрыкі. Перад уваходам у яе гарадоцкія харысткі спатыкалі „Музыкаў" традыцыйнай песняй *„Вітаем, вітаем, вас госці дарагія, жадаем, жадаем вам доўга, доўга жыць"*. Тут са словам прызнання і ўдзячнасці выступіў працаўнік Дома культуры Іван Карповіч. Прамаўлялі таксама Ніна Мушынская і Сцяпан Копа, які праз увесь час ад імя Ваяводскага дома культуры апекаваўся гродзенцамі. Ад гродзенцаў выступіла прадстаўніца абласнога аддзела культуры — Валянціна Мядзведзь. Госці і гаспадары абмяняліся сімвалічнымі падарункамі. Ад імя Прэзідыума ГП выступіў Міхась Хмялеўскі і ўручыў гасцям кніжныя выданні Галоўнага праўлення БГКТ.

* * *

— А як прайшлі канцэрты ў іншых мясцовасцях? — на гэтае пытанне адказаў мастацкі кіраўнік „Музыкаў" Валеры Самуйлін.

— Вельмі сардэчна прымалі нас у Бельску. Гэта сама было ў Гайнаўцы і ў Мілейчыцах. А вось у Сямяцічах канцэрт не адбыўся, не сабраліся людзі.

(мх)

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Беларуская пісьменніца Алена Мімрык прыслала „Зорцы" сваю новую кніжку „Там, дзе цячэ рака Конга". Напісала яна гэтую кніжку разам з Дзіянай Эндзінай. Расказваецца ў гэтай аповесці аб тым, як савецкі доктар прыязджае ў пачатку сямідзесятых гадоў разам са сваёй сям'ёю ў Конга, каб лячыць там людзей. З ім разам едзе і яго малая дачушка Воля. Аб уражаннях Волі і яе сяброўстве з кангалезскімі дзецьмі і расказвае гэтая кніжка.

Дзякуем за кніжку і прапануем чытачам некалькі ўрыўкаў.

## ТАМ, ДЗЕ ЦЯЧЭ РАКА КОНГА

Фернанда выйшаў з невялікага аднапавярховага дома і зажмурыўся ад яркага сонца, промні якога прабіваліся праз густую карону мангавага дрэва.

Была самая гарачая пара дня, калі ўсё жывое стараецца хутчэй схавацца, каб перачакаць да чацвертай гадзіны: у гэты час пачынае спадаць спёка.

Не паспеў Фернанда зрабіць і дзесяці крокаў, як у вароты ўехаў невялікі аўтобус і спыніўся каля яго. Дзверцы расчыніліся. Шафёр, ветліва ўсміхаючыся, выскачыў з кабіны і дапамог выйсці хударляваму чалавеку.

— Воля, а ты баялася, што не знойдзеш сабе таварышаў у двары бальніцы, — весела прамовіў ён, працягваючы рукі, каб дапамагчы выйсці дзяўчынцы з такімі ж светлымі, як у яго, валасамі.

Дзяўчынка ўсміхнулася хлопчыку і працягнула руку:

— Бон жур! Добры дзень! Мяне завуць Воляй, а цябе?

Фернанда збянтэжана маўчаў, пераводзячы позірк з дзяўчынкі на высокага мужчыну. Яны былі падобныя, як дзве кроплі вады.

— Давайце спачатку рэчы выгрузім, а потым будзем знаёміцца, — прамовіла маладая цёмнавалосая жанчына. — Яна лёгка саскочыла з падножкі аўтобуса, адразу ж падышла да хлопчыка і прывіталася:

— Добры дзень! Ты жывеш тут?

— Так, мадам, — адказаў Фернанда, паказваючы рукою на дом з жалезнай сеткай у вокнах.

— Значыць, будзем суседзямі. Колькі ж табе гадоў? — спыталася жанчына, працягваючы дачцэ кардонку.

(Працяг на стар. 10)

## НАША ДЗЯЦІНСТВА — РАДАСЦЬ І БУДУЧЫНЯ



Інструментальна-вакальны калектыў з Ляшукоў — удзельнік раённага агляду беларускай песні для школьнікаў.



Другакласнікі з Кляшчэляў, якія ўжо цэлы год вучыліся беларускай мове. Цяпер яны ўжо ў трэцім класе.




Удзельнікі спартыўна-квізавага конкурсу „Маладосць — цвярозасць" з вёскі Цялушкі. Вучацца яны ў школе ў Рыбалах.

Фота Я. Чэрнякевіч

Анір'ян Дзеружынскі

## ПРАНЫРЛІВЫ ВАЛОДЗЯ

*Хлопчык з выгляду*
*Рахманы,*
*Хлопчык з выгляду*
*Ціхмяны,*
*Гэтакі*
*Лагодненькі,*
*Гэтакі*
*Спакойненькі.*
*Як той кот,*
*Па класе ходзіць*
*Хітры,*
*Хітранькі Валодзя.*
*Ён ласкавенька*
*Зірне,*
*Там, дзе трэба,*
*Падміргне,*
*Усміхнецца,*
*Адзавецца,*
*У сябры*
*Заўжды наб'ецца.*

*Сам не мае*
*У ведах толку,*
*А ў таварыша*
*Дыктоўку*
*Зліжа*
*І не аблізнецца,*
*На шпаргалку*
*Спадзяецца.*
*Клянчыць*
*Большую адзнаку,*
*Рассыпаецца*
*Ён макам*
*Прад настаўніцай.*
*А дома —*
*„Добры" сын*
*І ўнук, вядома.*

*Скажа ціха*
*Брату Грышку:*
*— Грошай дай ты мне*
*На стрыжку.*
*Скажа:*
*— Мілы дзед.*
*Дай рублік,*
*Я куплю цукерак,*
*Бублік.*

*Скажа:*
*— Даражэнькі татка,*
*Грошай дай*
*На шакаладку.*
*Скажа:*
*— Мама,*
*Будзь харошай,*
*У буфет схадзіць*
*Дай грошай.*

*Так да ўсіх ён*
*Ход свой знойдзе,*
*А падстрыгчыся*
*Не пойдзе,*
*Не загляне*
*І ў буфет...*

*Накупляе*
*Цыгарэт*
*І глытае дым памалу,*
*Каб настаўніца*
*Не знала,*
*Каб не ведалі*
*Бацькі,*
*Сын жа*
*„Добранькі" такі.*

*Падлашчыцца,*
*Падкоціцца,*
*Пралезе,*
*Дзе захочацца,*
*Дзе не прайсці,*
*Там пройдзе*
*Пранырлівы*
*Валодзя.*

